Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 2. 15 ліпня 1929 году.

# ВЕСТКІ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (больш.) БЕЛАРУСІ.

**ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 585.

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых установах БССР.

УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.



# Да пытаньня аб арганізацыі парттроек у райпартарганізацыях.

Усё ўскладняючаяся партыйная праца ў нізавых звеньнях парт. апарату (раёнах, ячэйках) ужо даўно паставіла пытаньне аб неабходнасьці стварэньня нізавых інстытутаў па падрыхтоўцы і вырашэньню канфліктных і іншых парт. спраў, якія звычайна разглядаюцца на пасяджэньнях Райкомаў (надта перагружаных усялякімі іншымі пытаньнямі) ці Акруговых Кантрольных Камісій.

У нас гэта пытаньне было часткова вырашана стварэньнем інстытуту Упаўнаважаных АКК толькі ў 2-х раёнах—па Барысаву (Менскай акр.) і Рэчыцы (Гомельскай акр.), але ў гэтых арганізацыях ня былі арганізаваны парттройкі, бо адпаведныя паказаньні ЦКК Усе КП(б) (абежнік ЦКК УсеКП № 75 ад 7/IX-27 г.) гэта забаранялі, а прадугледжвалася магчымасьць стварэньня парттроек толькі ў арганізацыях, дзе налічваецца ня менш 1000 чалавек, чаго ня мелася ў свой час ні ў Барысаве, ні ў Рэчыцы.

Такім чынам, раённыя ўпаўнаважаныя КК разглядам партспраў не займаліся, так як ня было гэткай сыстэмы працы, каб канфліктныя справы, якія праходзяць у Райкоме, наперад расьсьледваліся-б упаўнаважаным. Толькі пасьля таго, як справы ў парадку апэляцыі аказваліся ў АКК, апошняя пасылала іх (справы) свайму ўпаўнаважанаму на заключэньне. Потым упаўнаважаныя ўдзельнічалі яшчэ ў выязных тройках, арганізуемых АКК па разгляду партспраў. Ніякага вучоту парт. спраў, праходзячых у Райкоме партыі, ва ўпаўнаважаных не вялося. Таксама не праводзілася імі вывучэньне хваробных зьявішч у ра[illegible] партарганізацыях. Чым-жа зай[illegible] ліся Упаўнаважаныя КК? Яны [illegible] маліся па заданьням вышэй ст[illegible] кантрольных органаў і па св[illegible]

цыятыве *пераважна* расьсьледваньнем асобных заяў, скаргаў, газэтных заметак; яны падрыхтоўвалі некаторую частку канфлікта-партыйных спраў да разгляду іх у Райкоме партыі.

*Але, як паказаў вопыт, вылучэньне аднаго толькі ўпаўнаважанага ў раёне—справу не вырашае, бо, уласна кажучы, гэта вылучэньне асобных зьмен у працы Райкомаў не ўнясло.*

Акруговыя КК, у сувязі з пашырэньнем іх работы, значную частку работы ў галіне барацьбы з хваробнымі зьявішчамі ў партыі даручаюць Райкомам, не гаворачы аб шэрагу іншых даручэньняў па рэагаваньню на газэтныя заметкі, рабселькораўскія карэспандэнцыі і г. д. Для разгляду гэтых пытаньняў на пасяджэньнях раённых камітэтаў партыі ў большасьці выпадкаў вылучаюцца спэцыяльныя камісіі, у прыватнасьці, для расьсьледваньня спраў членаў партыі, прычым наглядаецца, што пытаньні канфліктнага характару звычайна зьяўляюцца найбольш зацяжнымі (выклікі на пасяджэньні, допыты і г. д.) і яны часта ці адкладваюцца з пасяджэньня на пасяджэньне і гэтым самым ствараецца вялікая валакіта, ці гэтыя пытаньні не даюць магчымасьці, асабліва ў буйных рабочых райпартарганізацыях, удзяліць ім дастатковую ўвагу. Не заўсёды наглядаецца прадуманы падыход да разбору партспраў з боку розных камісій.

Выходзячы з неабходнасьці палепшаньня работы найбольш буйных раённых арганізацый у галіне барацьбы з хваробнымі зьявішчамі і набліжэньня гэтай работы і большай яе ўвязкі з АКК, на XII-ым Зьезьдзе КП(б)Бел. па дакладу Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі Беларусі было прынята рашэньне: „У мэтах умацаваньня сувязі КК з партыйнымі масамі і ўцягненьня ў работу КК большай колькасьці членаў КП(б)Б для разгляду партыйных спраў аб парушэньні праграмы, статуту партыі і партыйнай этыкі і вывучэньня хваробных зьявішч у арганізацыі, у найбольш буйных гарадзкіх раённых арганізацыях лічыць неабходным вылучэньне ўпаўнаважаных акруговых кантрольных камісій і парттроек пры іх, якія абіраюцца раённымі партыйнымі канфэрэнцыямі“.

Перад гэтым вялося шырокае абгаварэньне аб мэтазгоднасьці арганізацыі сталых троек пры гарадзкіх райкомах партыі, прычым у шэрагу арганізацый выказаліся рашуча за гэткую арганізацыю.

Разгледжваючы гэта пытаньне Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б, у ажыцьцьяўленьне пастановы XII-га зьезду КП(б)Б, вынес рашэньне абрацць на раённых партканфэрэнцыях упаўнаважаных КК і парттройкі пры іх, згодна палажэньню ЦКК УсеКП(б), у наступных, найбольш буйных, ва ўмовах БССР, пралетарскіх гарадзкіх раёнах, налічваючых больш 1000 сябраў і кандыдатаў партыі: Кастрычнікавы і Фрунзаўскі раёны Менскай арганізацыі; Віцебскі 2-гі Гарайком (фабрычны раён); Гомельскі залінейны райком (чыгун. раён).

Што датычыцца буйных сельрайкомаў, то ні ў адным з іх няма 1000 чал.—тэй мінімальнай нормы, якая прадугледжана палажэньнем і дзе-б магчыма было арганізаваць парттройкі, за выключэньнем Рэчыцкай і Барысаўскай райпартарганізацыяй, дзе на партканфэрэнцыі ўжо праведзена абраньне парттройкі.

Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б у сваёй пастанове лічыць неабходным вылучэньне Упаўнаважаных КК і арганізацыю парттроек пры іх у раёнах налічваючых ня менш 500 чал., іменна ў такіх раёнах: Жлобінская арганізацыя (Бабруйскай акр. арганізацыі—буйныя ячэйкі чыгун. транспарту і інш. прадпрыемствы), Навабеліцкая арганізацыя (Гомельскай акр. арганізацыі ў 4-х вярстох ад Гомеля, фабр. раён з 6 вытворчымі ячэйкамі), Добруская раённая арганізацыя (Гомельск. акр., арганізацыі, фаб. яч. і буйны сельраён

Шклоўская раённая арган. (Магілёўск. акр. арг., вытворчыя ячэйкі і буйны сельраён).

Гэту сваю пастанову ЦКК КП(б)Б прасіла ЦКК УсеКП(б) зацьвердзіць і зьнізіць ва ўмовах Беларусі норму абраньня ўпаўнаважаных у арганізацыях з колькасьцю ў 500 членаў і кандыдатаў.

**Задачы і парадак работ парттроек.**

Палажэньне ЦКК УсеКП(б) „аб парттройках пры Ўпаўнаважаных мясцовых КК УсеКП(б)“ наступным чынам вызначае задачы і парадак работ парттроек.

Мэта арганізацыі парттроек—гэта ўзмацніць сувязь упаўнаважаных КК з партыйнымі масамі і ўцягненьне ў работу КК большай колькасьці членаў УсеКП(б), а таксама забясьпечаньне найбольш усебаковага калектыўнага разгляду партыйных спраў па парушэньню праграмы, статуту УсеКП(б) і партыйнай этыкі і для вывучэньня хваробных зьявішч у арганізацыі.

Парттройкі складаюцца з 3-х членаў (уключаючы ўпаўнаважанага) і двух да іх кандыдатаў, абіраемых адпаведнымі партыйнымі канфэрэнцыямі з ліку членаў партыі, маючых не менш трохгадовага партстажу, пераважна з рабочых і сялян, найбольш вытрыманых у партыйных адносінах і карыстаючыхся аўтарытэтам у партыйнай арганізацыі.

На чале парттроек стаіць Упаўнаважаны КК, старшынствуючы на пасяджэньнях парттроек.

Усе члены парттроек працуюць па сумясьціцельству, пры скарачэньні нагрузкі іх ад іншых партыйных заданьняў (ніякіх дадатковых выдаткаў на арганізацыю і работу парттроек не адпускаецца).

Парттройкі вырашаюць падрыхтаваныя ўпаўнаважанымі КК і членамі парттройкі да разбору справы аб партпраступках, а таксама вывучаюць прычыны хваробных зьявішч у партыйнай арганізацыі і высоўваюць способы іх зьнішчэньня. Усе рашэньні парттроек уносяцца на ўзгадненьне з адпаведным партыйным камітэтам.

У выпадку нязгоды партыйнага камітэту з рашэньнем парттройкі, пытаньне пераносіцца на сумеснае пасяджэньне; пры недасягненьні згоды—пытаньне перадаецца на разгляд адпаведнай КК. Усе рашэньні парттроек, узгодненыя з партыйным камітэтам, лічацца канчатковымі, акрамя спраў аб выключэньні, добраахвотных і мэханічных выхадах з партыі і аб аднаўленьні партстажу да 1921 г. (да партправеркі), якія рашаюцца адпаведнымі КК.

Парттройкі робяць справаздачу аб сваёй рабоце на партканфэрэнцыі, робяць даклады на партыйных сходах і асьвятляюць сваю работу ў друку.

Сувязь з КК падтрымліваецца пасылкай у КК пратаколаў пасяджэньняў парттроек, а з боку КК—інструктаваньнем, заслухоўваньнем дакладаў парттроек, у неабходных выпадках абсьледваньнем і пасылкай указаньняў па паасобным пратаколам пасяджэньняў парттроек.

Члены парттроек павінны прыймаць удзел у пасяджэньнях бюро і пленумаў партыйных камітэтаў і на раённых і акруговых парт. канфэрэнцыях (з правам дарадчага голасу).

Вось у агульных рысах задачы і парадак работ парттроек пры Ўпаўнаважаных КК.

Зараз неабходна, каб арганізаваныя ў райпартарганізацыях парттройкі як нізавыя кантрольныя ячэйкі, падыйшлі-б шчыльна да сваёй работы па выкананьню ўскладзеных на іх партыяй задач.

*М. Зярніцкі.*

# Больш увагі партыйнай статыстыцы.

Вучот і статыстыка маюць і павінны мець сьціслую сувязь з усёй працай партыйных камітэтаў.

Статыстыка наогул і партыйная статыстыка ў асаблівасьці зьяўляюцца люстэркай, дзякуючы якой партыя пераконваецца ў тым, наколькі правільна праводзяцца ў жыцьцё яе рашэньні. Вось дырэктывы нашай партыі, дадзеныя XII Зьездам КП(б)Б, якія павінны мець адбітак у нашай статыстыцы: „XII-ы Зьезд КП(б)Б, выходзячы з бязумоўнай неабходнасьці рашучага палепшаньня сацыяльнага складу КП(б)Б, ставіць перад Цэнтральным Камітэтам і ўсёй КП(б) на абавязковае вырашэньне задачу дамагчыся, каб да канца 1930 году ў КП(б)Б было ня менш 50% яе складу рабочых, непасрэдна занятых у вытворчасьці, у тым ліку батракоў і с.-гасп. рабочых“ і далей: „Неабходна з бо́льшай рашучасьцю ўцягваць работніц, батрачак, сялянак калгасьніц і бяднячак у партыю“.

Гэтыя дырэктывы нашае партыі павінны мець сваё пераламленьне праз прызму партыйнай статыстыкі як на мясцох, так і ў ЦК.

Выкананьне гэтых дырэктыў застаўляе ўсю нашу вучотна-статыстычную пэрыфэрыю зьвярнуць сваю ўвагу ня толькі на вядзеньне вучоту асабістага складу членаў і кандыдатаў КП(б)Б, але статыстыка павінна ўлічваць, наколькі выконваецца і наступная дырэктыва XII-га Зьезду КП(б)Б, дзе „Зьезд даручае пры пабудове партыйнай і палітасьветнай сеткі і пры камплектаваньні існуючай сеткі абавязкова ўлічваць неабходнасьць уцягненьня беспартыйных рабочых, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, дабіваючыся, каб ня менш 30—40% было ўцягнута гэтай катэгорыі рабочых і батракоў, якія будуць зьяўляцца рэзэрвам для ўцягненьня ў партыю“, і далей: „Зьезд даручае абавязкова забясьпечыць выхаваньне праз партыйную палітасьветную адукацыю ўсіх новых, што прыймаюцца зараз у партыю рабочых, батракоў і с.-г. рабочых“.

Усе прыймаемыя партворганамі меры ў справе выкананьня гэтых дырэктыў, урэшце, павінны мець адбітак у лічбах статыстыкі, і чым больш вучотна-статыстычны апарат парткому падрыхтован да гэтае працы, тым больш там будуць пэўныя даныя.

Партыйная статыстыка пакуль у асноўным падзяляецца на наступныя галіны:

*1. Асабісты вучот камуністых* (колькасны склад, склад па тыпу ячэек, склад па сацыяльнаму становішчу, роду заняткаў і нацыянальнасьці, рух складу).

*2. Вучот партасьветнай працы* (камплектаваньне, вынікі).

*3. Вучот працы дэлегацкіх сходаў* (камплектаваньне, вынікі).

*4. Вучот працы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы партыйных работнікаў.*

*5. Вучот складу Партканфэрэнцый і кіруючага складу партворганаў.*

Першыя тры галіны непасрэдна даюць магчымасьць парткомам назіраць за ступеньню выкананьня паказаных вышэй дырэктыў партыі і зразумела, што за правільнасьць зьбіраньня гэтых зьвестак, складаньня і дасылкі іх да тэрміну ў вышэйстаячыя парткомы, за гэта нясуць адказнасьць у першую чаргу працаўнікі, якіх датычыцца гэта справа.

Атрымліваемыя статыстычныя матар‘ялы з месц сыгналізуюць аб тым, што на гэтым неабходным вучастку партыйнай працы ня ўсё добра; спазьненьне з дасылкай (ад некаторых парткомаў) статзьвестак, няправільнасьць часам іх складаньня застаўляе зьвяртацца да партыйных органаў з тым, каб у гэтай галіне быў зроблен пералом у бок палепшаньня пастаноўкі гэтае працы. Шляхі да гэтага наступныя:

вакол вучотна-статыстычнай працы ячэек павінен быць згуртован сталы працаздольны актыў, які павінен дапамагчы ячэйкам правільнаму вядзеньню вучотна-статыстычнай працы, ячэйка пры дапамозе актыву вядзе пэрсанальны вучот сваіх членаў і кандыдатаў партыі, своечасова адзначае зьмены ў вучотных картках, своечасова складае статсправаздачы і своечасова дасылае іх у райком.

Райком пры дапамозе вучстатактыву павінен своечасова інструктаваць работнікаў яч. і сачыць за працай нізавых зьвеньняў.

У зьвязку з тым, што асабісты вучот камуністых канчаткова перадаецца райкомам і ячэйкам, райкомы павінны мець на ўвазе, што работнік па вучоту і статыстыцы павінен быць больш кваліфікаваным.

Статыстык РК супольна з працаўнікамі АПА кіруе працай па вядзеньню журналаў партасьветы, таксама журналаў (дзеньнікаў) працы дэлегацкіх сходаў.

У залежнасьці ад пэўнай пастаноўкі гэтых галін працы залежыць пэўнае высьвятленьне абхопу і ўзросту палітычнага ўзроўню як партыйных, так і беспартыйных мас.

Працаўнікі вучоту і статыстыкі вышэйшых партворганаў, пры складаньні сводных статсправаздач, таксама пры распрацоўцы асобных пытаньняў (цяга, узрост, прыём і інш.) карыстаюцца зьвесткамі ніжэйшых партворганаў, пагэтаму наздіраньне за працай гэтых органаў, павінна быць заўсёды.

ЦК УсеКП(б) зьвернута ўвага на палепшаньне працы вучоту і статыстыкі на мясцох. ЦК КП(б)Б вылучана статыстыка ў асобную частку; мясцом дадзены адпаведныя дырэктывы ў справе палепшаньня працы вучоту і статыстыкі, але значных вынікаў да гэтага часу няма

Пытаньням палепшаньня вучотна-статыстычнай працы павінна быць удзелена больш увагі, чым гэта было дагэтуль. Пры непасрэдным удзеле парткомаў з прыцягненьнем да гэтай працы актыву задачы, якія стаяць перад статыстыкай, будуць выкананы.

*Піпкін.*

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б.

## Аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва ў прамысловасьці БССР.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 3-га чэрв. 1929 г.).*

1. Заслухаўшы даклад аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва, Бюро ЦК КП(б)Б адзначае наступныя станоўчыя моманты: ахоп сацыялістычным спаборніцтвам значнай часткі прадпрыемстваў рэспубліканскай прамысловасьці і часткі чыгункі; арганізацыйны пэрыяд спаборніцкага руху ўтварыў уздым сярод шырокіх мас; сацыялістычнае спаборніцтва паступова прымае канкрэтныя формы працы па падняцьцю і палепшаньню вытворчасьці (палітычна-гаспадарчыя дагаворы, заключаемыя ў апошні час, канкрэтызуюць заданьні кожнага прадпрыемства ў паасобку); у выніку праведзенай кампаніі па падняцьцю вытворчасьці працы і прац. дысцыпліны і праводзімага сацыялістычнага спаборніцтва намячаецца пералом у сэнсе павялічэньня прадукцыйнасьці працы і падняцьця дысцыпліны.

2. Побач з гэтым, Бюро ЦК адзначае наступныя асноўныя недахопы: недастаткова глыбокае растлумачэньне рабочым, у асаблівасьці новым кадрам, сутнасьці сац. спаборніцтва, у выніку чаго сац. спаборніцтва часткай рабочых зразумелася як часовая кампанія, маючая мэтай выклікаць парыў, правядзеньне на некаторых прадпрыемствах сац. спаборніцтва без дастатковае падрыхтоўкі і масавага растлумачэньня, а ў шэрагу выпадкаў зазначаецца „гонка за колькасьцю за лік якасьці правядзеньня сац. спаборніцтва, вытворчыя камісіі і нарады ў большасьці сваёй слаба кіруюць работай па правядзеньню сац. спаборніцтва, а ў некаторых выпадках канчаткова адсутнічае кіраўніцтва з боку вытворчых камісій і вытворчых нарад; слабае адбіцьцё праводзімай работы па сац. спаборніцтву ў клюбах, чырвоных кутках і недастатковае асьвятленьне ў друку (цэнтральным і мясцовым) і насьценгазэтах; недастаткова разгорнута работа па арганізацыі сац. спаборніцтва паміж асобнымі брыгадамі, цэхамі і асобнымі рабочымі. Усе гэтыя недахопы яшчэ ў больш значнай меры маюць месца ў мясцовай прамысловасьці, прадпрыемства якой наогул недастаткова ўцягнуты ў сацыялістычнае спаборніцтва.

У рабоце па сацыялістычнаму спаборніцтву няма яшчэ дастатковага сыстэматычнага кіраваньня з боку Райкомаў і ячэек КП(б)Б і з боку паасобных камуністых недастаткова выяўляецца ініцыятыва ў гэтай рабоце.

Бюро ЦК у далейшым прапануе:

1. Усім партыйным і праф. арганізацыям шырока разгарнуць работу па глыбокаму растлумачэньню рабочым, у асаблівасьці новым кадрам, што сац. спаборніцтва не зьяўляецца часовай кампаніяй і што спаборніцтва павінна даць не часовы, а пасьледавацельны і сыстэматычны здаровы ўздым вытворчасьці, які павінен суправаджацца рознымі рацыяналізатарскімі мерапрыемствамі, садзейнічаючымі замацаваньню і разьвіцьцю дасягнутых посьпехаў.

2. Разам з далейшым разгортваньнем сац. спаборніцтва паміж асобнымі прадпрыемствамі, неабходна максымальна разгарнуць работу па арганізацыі спаборніцтва паміж асобнымі цэхамі, брыгадамі, групамі рабочых і асобнымі рабочымі. Пры гэтым неабходна ўсямерна ўзмацніць ролю і кіраўніцтва парт. ячэек і паасобных партыйцаў, у асаблівасьці пры арганізацыі спаборніцтва паміж асобнымі рабочымі.

3. Неабходна ў далейшым узяць курс на большую канкрэтызацыю заключаемых палітыка-гасп. дагавароў (паказаньне заданьня для кожнага прадпрыемства, цэху і г. д.), з вучотам рэальных магчымасьцяй іх выкананьня. Больш шырока практыкаваць прэміраваньні і іншыя віды заахвочваньня, якія павінны садзейнічаць разьвіцьцю творчай ініцыятывы рабочых мас.

4. Адзначаючы, што ў шэрагу выпадкаў узросшая выпрацоўка прадукцыі дае аднachасова пагоршаньне якасьці яе і павялічэньне браку, прапанаваць усім парт., праф. і гаспадарчым органам усямерна растлумачыць рабочым, што павялічэньне выпрацоўкі прадукцыі ні ў якім разе не павінна адбівацца на якасьці, а наадварот, неабходна прыняць усе меры да палепшаньня яе.

5. Улічваючы, што выкананьне абавязацельстваў прадпрыемстваў, цэхаў і асобных рабочых па спаборніцтву, залежыць ня толькі ад энтузіязму мас, але і ад усіх вытворчых абставін, абавязаць усе гаспадарчыя ворганы яшчэ больш, чым да гэтага часу, зварочваць максымум увагі пытаньням правядзеньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, правільнай арганізацыі працы, своечасовага снабжэньня сыравінай і рашуча зжыць тэхнічныя непарадкі і прастоі.

Разам з разгортваньнем сац. спаборніцтва паміж рабочымі, фракцыі ЦСПСБ і ВСНГ неабходна прыняць усе меры да забесьпячэньня поўнага ўдзелу ў спаборніцтве адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу прадпрыемстваў і ўстаноў.

6. Прапанаваць усім парт. і праф. арганізацыям забясьпечыць уважлівае і сыстэматычнае кіраўніцтва сацыялістычным спаборніцтвам з тым, каб арганізуючы спаборніцтва, дапамагчы яго правядзеньню і садзейнічаць яго пасьпяховасьці. Разам з тым не абмяжоўваць, а разьвіваць ініцыятыву і самадзейнасьць саміх мас.

Неабходна максымальна ажывіць работу вытворчых нарад з тым, каб усе практычныя пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем сац. спаборніцтва праходзілі праз вытворчыя нарады.

7. Сац. спаборніцтва павінна знайсьці поўнае адбіцьцё ў працы клюбаў і чырвон. куткоў і ўся сыстэма культмасавай работы прафсаюзаў павінна быць прыстасавана да таго, каб максымальна садзейнічаць найбольш пасьпяховаму правядзенню сац. спаборніцтва. Неабходна таксама больш шырока і ўсебакова асьвятляць работу па сац. спаборніцтву ў друку і насьценгазэтах, зьвяртаючы асаблівую ўвагу асьвятленьню вынікаў, атрыманых па сац. спаборніцтву. Даручыць АПАД, сумесна з фракцыяй ЦСПСБ, арганізаваць праз друк агляд тых прадпрыемстваў, якія добра арганізавалі сац. спаборніцтва і, наадварот, тых, якія дрэнна арганізавалі сац. спаборніцтва.

8. Прапанаваць ВСНГ даць паказаньні ўсім гасп. ворганам аб неабходнасьці своечасовага прадстаўленьня вестак аб дасягнутых посьпехах з тым, каб гэтыя вынікі шырока абвяшчаліся сярод рабочых.

9. Адзначаючы зусім слаба разгорнутую працу па арганізацыі сац. спаборніцтва ў сав. установах, прапанаваць фракцыі ЦСПСБ даць паказаньні адпаведным праф. арганізацыям аб максымальным разгортваньні гэтай работы, уцягваючы ў яе шырокія масы служачых. Фракцыі ЦСПСБ даць таксама паказаньні ўсім праф. арганізацыям аб разгортваньні работы па арганізацыі сац. спаборніцтва паміж прамысловымі прадпрыемствамі і падшэфнымі вёскамі і саўгасамі, і асаблівую ўвагу зьвярнуць на разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва на будаўнічых работах.

Даручыць усім АК і РК КП(б)Б нэрыядычна заслухоўваць даклады аб ходзе сац. спаборніцтва, прычым, пытаньні сац. спаборніцтва павінны мець поўны адбітак на праходзячых райпарткanфэрэнцыях.

## Аб сацыялістычным спаборніцтве ў сельскай гаспадарцы.

*(Пастанова Сэкратарыяту ЦК ад 3-га чэрвеня 1929 г.).*

1. Сэкратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што сацыялістычнае спаборніцтва на вёсцы разгарнулася недастаткова. Саўгасы, калгасы, якія павінны былі зьявіцца ініцыятарамі спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы, мала праявілі ініцыятывы і самадзейнасьці. Адсутнічае масавае спаборніцтва паміж вытворчымі аб'яднаньнямі, вёскамі, пасёлкамі, цэлымі сельсаветамі і раёнамі.

2. Дырэктыва красавіковага Пленуму ЦК КП(б)Б адносна выкарыстаньня вясеньняй пасеўнай кампаніі для падрыхтоўкі

конкурсу на лепшы сельска-гаспадарчы раён, як адна з форм сацыялістычнага спаборніцтва,—ня выканана.

3. Асноўнымі прычынамі слабага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва на сяле трэба лічыць:

а) познае і зусім недастатковае разгортваньне работы сельскімі партарганізацыямі па ўцягненьню саўгасаў, калгасаў, каапэрацыйных арганізацый і шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас у сацыялістычнае спаборніцтва;

б) слабая ініцыятыва прафэсыянальных саюзаў у справе падрыхтоўкі і выяўленьня грамадзкае думкі рабочых калектываў, саўгасаў, школьных работнікаў, совработнікаў адносна задач сацыялістычнага спаборніцтва і практычных форм арганізацыі апошняга;

в) адсутнасьць якой бы та ні было работы па арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва ў сыстэме вытворчай, крэдытнай каапэрацыі ў вёсцы, а таксама слабае разгортваньне спаборніцтва ў калгасах і камунах;

г) недастатковая ініцыятыва зямельных органаў у разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва ў пэрыяд падрыхтоўкі да сяўбы, а таксама слабая работа па арганізацыі конкурсаў на лепшы сельска-гаспадарчы раён;

д) друк зусім нездавальняюча паставіў асьвятленьне гэтага пытаньня на старонках газэт і ня выявіў лепшых узораў сацыялістычнага спаборніцтва, якія ўсё-ж у вёсцы маюцца.

4. У сувязі з гэтым ЦК КП(б)Б прапануе:

а) Наркамзему, фракцыям АВК, РВК, фракцыям прафсаюзаў, каапэрацыйным арганізацыям і савецкім установам, акругкомам і райкомам прыняць меры да шырокага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва ў вёсцы. Спаборніцтва зьяўляецца не кампаніяй, а павінна стаць узьнімаючым творчую энэргію шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас пастаянным мэтадам разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы;

б) спаборніцтва павінна абхапіць усе галіны сельскае гаспадаркі, а таксама ўсе віды эканамічнага, культурнага і савецкага будаўніцтва вёскі;

в) спаборніцтва павінна быць разгорнута па лініі саўгасаў, калгасаў, камітэтаў узаемадапамогі, спажыўкаапэрацыі, загатоўчых дзярж. устаноў, вопытных станцый, камсамолу, палітасьветустаноў, устаноў аховы здароўя, дэлегацкіх сходаў і інш. грамадзкіх арганізацый.

г) дабіцца ўдзелу ў спаборніцтве шырокіх мас бядняцка-серадняцкага сялянства, прычым асноўнымі момантамі спаборніцтва павінны быць пытаньні соц. перабудовы сельскай гаспадаркі, узьняцьця ўраджайнасьці пашырэньня пасеўных плошчаў, вытворчага каапэраваньня, паляпшэньня работы ўжо існуючых каапэрацыйных аб'яднаньняў па накапленьні, уцягненьні ўкладаньняў, аказаньні вытворчай дапамогі беднаце і т. д. Трэба шырока выкарыстаць адбываючыяся зараз сходы пайнікаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі для растлумачэньня задач і мэтаў спаборніцва.

5. Арганізацыя спаборніцтва павінна праводзіцца на падставе шырокага праяўленьня ініцыятывы і самадзейнасьці мас. Катэгарычна спыніць попыты бюрократычнага рэгуляваньня справы сацыялістычнага спаборніцтва ў вёсцы зьверху, забясьпечыўшы кіраўніцтвам творчую ініцыятыву і самадзейнасьць мас, афармляючы дагаварамі, умовамі і г. д.

6. У сувязі з тым, што спаборніцтва ў тых ці іншых выпадках патрабуе заахвочваньня найбольш выдзяляючыхся па рабоце ў спаборніцтве рабочых калектываў, калгасаў, каапэратываў, а таксама асобных работнікаў і спэцыялістых, прапанаваць усім фракцыям устаноў і арганізацый, якія павінны праводзіць сацыялістычнае спаборніцтва ў вёсцы, вылучыць неабходныя матар'яльныя фонды для прэміраваньня як асабовага, так і калектыўнага, найбольш выдатнага ўдзелу і дасягненьняў сацыялістычнага спаборніцтва.

7. У сувязі з тым, што сацыялістычнае спаборніцтва павінна разгортвацца на падставе самадзейнасьці шырокіх мас сялянства і рабочых саўгасаў і што выяўленьне дасягненьняў і хода сацыялістычнага спаборніцтва ў даным выпадку адыгрывае вялізарную ролю, даручыць друку (цэнтральным і акруговым газэтам і часопісям) разгарнуць шырокія работы па арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва, выяўленьню лепшых прыкладаў яго і г. д., сыстэматычна асьвятляючы ход спаборніцтва і яго ітогі.

8. Пры правядзеньні спаборніцтва імкнуцца не ствараць спэцыяльных камісій. Практычную работу па спаборніцтву павінны праводзіць рабачкомы, саветы, калгасы, праўленьні каапэратываў, мясцкомы саюзу, а таксама кіруючыя органы розных устаноў і арганізацый, праводзячых сацыялістычнае спаборніцтва.

9. Аддзелу ЦК КП(б) па рабоце ў вёсцы прасачыць за правядзеньнем у жыцьцё данага рашэньня і праз два месяцы далажыць

## Аб калгасным будаўніцтве.

*(Пастанова Бюро ЦК ад 31-га мая 1929 г.).*

У выніку разгортваньня працы па ажыцьцяўленьню дырэктыў XI зьезду КП(б)Б і XV зьезду ЎсеКП(б) маецца колькасны рост калгасаў і вытворчых каапэрац. аб'яднаньняў.

Раней арганізаваныя калгасы гаспадарча некалькі ўзмацніліся, некаторая частка з іх, пакуль што невялікая, ідзе ўжо ўперадзе вёскі ў сэнсе ўжываньня культурных спосабаў вядзеньня гаспадаркі і паступова пачынае станавіцца прыкладам для акаляючых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, паказваючы ім на практыцы, што шлях калектывізацыі ёсьць адзіны шлях для сапраўднага эканамічнага і культурнага ўздыму іх.

Разам з гэтым Бюро КП(б)Б адзначае што:

1. Калгасамі ахоплен зусім недастатковы процант сялянскіх гаспадарак. Значная колькасьць з ліку маючыхся калгасаў зьяўляюцца дробнымі, што зьяўляецца перашкодай да ўжываньня ў іх вышэйшых форм вядзеньня сельскае гаспадаркі, а таксама і пры арганізацыі калгасаў у бягучым годзе арганізуюцца дробныя гаспадаркі. Арганізацыя буйных калгасаў з абхопам цэлых вёсак і пасёлкаў зьяўляецца пакуль што адзінічнымі выпадкамі.

2. Ня ўсюды з боку мясцовых партыйных арганізацый дастаткова праяўляецца ініцыятыва і ажыцьцяўляецца належнае кіраўніцтва ў штодзённай практычнай працы па арганізацыі буйных, узбуйненьню існуючых, а таксама па ўзмацненьню слабых калгасаў. У практычнай працы дапускаецца адміністраваньне з боку мясцовых устаноў і г. д.

3. Нездавальняюча выконваюцца дырэктывы ЦК і XII-га зьезду КП(б)Б па ўзмацненьню партыйнага ўплыву сярод калгасных мас, па арганізацыі партыйных ячэек у калгасах, па лепшым абслугоўваньню калгасаў існуючымі партыйнымі ячэйкамі і па ўваходжаньню камуністых у склад калгасаў, у сувязі з чым адсутнічае ў большасьці калгасаў масавая выхаваўчая праца ў напрамку стварэньня належных, клясава вытрыманых калгасных кадраў.

4. Усё яшчэ слабае агранамічнае абслугоўваньне калгасаў, вялікі недахоп агранамічнага пэрсаналу, адсутнасьць у значнай частцы калгасаў вытворчых плянаў і г. д., што адбіваецца на ўнутраным становішчы жыцьця і працы іх.

5. Крэдытаваньне не заўсёды ўвязваецца з арганізацыйнымі і вытворчымі плянамі калгасаў. Адсутнічае належная праверка скарыстаньня крэдытаў, у выніку чаго маюцца выпадкі закрэдытаваньня і не дакрэдытаваньня, а таксама скарыстаньня крэдытаў не па прызначэньню.

Выходзячы з сучаснага становішча калгаснага руху і дырэктыў XII зьезду КП(б)Б і XVI усесаюзнай партканфэрэнцыі, Бюро ЦК КП(б)Б у далейшым прапануе:

1. Акругкомам, райкомам КП(б)Б, калгассаюзам, усім каапэрацыйным і савецкім органам галоўную ўвагу ў далейшай працы па калгаснаму будаўніцтву сканцэнтраваць на пытаньнях:

а) Арганізацыі буйных калгасаў, ахопліваючы цэлыя вёскі і пасёлкі, адначасова праводзячы працу па ўзбуйненьню ўжо існуючых калгасаў, дзеля чаго ва ўсіх мясцох, дзе магчыма правесьці ўзбуйненьне, патрэбна арганізаваць масавую растлумачальную працу, як сярод калгасьнікаў так і акаляючага насельніцтва.

б) Максымальнай увязкі арганізацыі калгасаў з праводзімым земляўпарадкаваньнем. Да земляўпарадкуемых вёсак патрэбна прымацаваць палітычна падрыхтаваных працаўнікоў для разгортваньня там папярэдняй працы з тым, каб цалкам і поўнасьцю выкарыстоўваўся пэрыяд земляўпарадкаваньня дзеля арганізацыі і канчатковага афармленьня калгасаў.

в) Максымальнага разгортваньня працы па калектывізацыі ў прымежных і ільнаводных раёнах, а таксама ў раёнах будуючыхся энэргетычных цэнтраў (Асінбуд і 2-я раённая Электро-станцыя) з тым, каб да сканчэньня будаўніцтва гэтых станцый была падрыхтавана магчымасьць скарыстаньня энэргіі для вытворчасьці сельскае гаспадаркі.

г) Рашучага ўзмацненьня працы па пераводу прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў у больш складаныя калектыўныя формы. Адначасова дамагацца павялічэньня аграмаджаных сродкаў вытворчасьці ў саміх калгасах.

д) АК КП(б)Б, калгассаюзам і зямельным органам зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне існуючых калгасаў, на рашучае палепшаньне агранамічнага абслугоўваньня і на лепшую пастаноўку арганізацыі вытворчасьці працы ў калгасах.

2. Белкалгассаюзу і Наркамзему абавязкова арганізаваць сыстэматычную агранамічную дапамогу калгасам.

Маючы на ўвазе імкненьне раду парт. працаўнікоў і ў прыватнасьці аграномаў да пераходу на працу па калгаснаму будаўніцтву, АК КП(б)Б абавязкова задавальняць іх просьбы накіраваньня на гэтую працу.

3. Калгассаюзу праверыць, як скарыстоўваюцца трактары ў калгасах і забясьпечыць найбольш поўнае і рацыянальнае іх скарыстаньне.

РСІ праверыць, як скарыстоўваюцца трактары па лініі другіх арганізацый.

4. Белкалгассаюзу ў месячны тэрмін распрацаваць пытаньне аб арганізацыі куставых вытворчых аб'яднаньняў, якія павінны працаваць на падставе статуту і арганізоўваць калгасы куставым парадкам з ахопам цэлых сельскіх саветаў і раёнаў.

Адначасова сумесна з НКЗ і Бельсельсаюзам у месячны тэрмін распрацаваць пытаньне аб формах арганізацыі ў БССР трактарных станцый і аб скарыстаньні ў далейшым трактараў куставым парадкам. Паставіць гэтыя пытаньні ў ЦК.

5. Даручыць НКЗ і Белкалгассаюзу распрацаваць формы ўвязкі працы дасьледчых станцый з калгасным будаўніцтвам.

Фракцыі савету дасьледчага інстытуту пераглядзець сваю праграму ў бок большага вывучэньня вопыту разьвіцьця буйнай сацыялістычнай гаспадаркі і масавай калектывізацыі. У прыватнасьці лічыць неабходным арганізацыю пры Аддзеле Эканомікі і аграрнай палітыкі інстытуту габінэту буйнага сацыялістычнага земляробства.

6. Белкалгассаюзу прыняць рашучыя захады да зьнішчэньня ўнутрыкалгасных недахопаў: перарастаньне і лжэ-калгасы, няправільнае разьмеркаваньне даходаў, высокія паі, зачыняючыя доступ беднаце, сувязь з прыватным рынкам, няправільнае скарыстаньне крэдыту і г. д.

7. Вясковаму аддзелу ЦК, Белкалгассаюзу і Сельсаюзу распрацаваць практычныя мерапрыемствы па правядзеньню сац. спаборніцтва, дабіўшыся шырокага ўдзелу

калгасаў і вытворчых аб'яднаньняў у спаборніцтве.

8. Дзеля асьвятленьня практыкі калгаснага будаўніцтва і папулярызацыі лепшых вопытаў, адзелу друку і рэдакцыі часопісі „Плуг" рэарганізаваць часопісь „Плуг" у ворган НКЗ і Белкалгассаюзу, зрабіўшы яе папулярна-масавай часопісьсю, шырока асьвятляючы калгаснае будаўніцтва. БДВ і Калгассаюзу арганізаваць выданьне папулярнай літаратуры аб калгасным будаўніцтве.

9. Азначаючы недастатковасьць увагі з боку проф. арганізацый на вёсцы ў справе калектывізацыі, фр. ЦСПСБ даць паказаньні нізавым прафорганам аб узмацненьні ўдзелу прафсаюзаў, асабліва с.-г. і лясн. рабочых, а таксама працаўнікоў асьветы ў справе калектывізацыі. Шэфтаварыствы ў сваю чаргу павінны сканцэнтраваць сваю працу галоўным чынам па лініі аказаньня практычнай дапамогі мясцовым органам у справе калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня.

10. Пастаўленая задача аграмаджаньня да канца пяцігодкі ня менш 18% зямельнае плошчы патрабуе ад Акругкомаў, РК КП(б)Б і ячэек рашучага ўзмацненьня ўсёй працы па выкананьню гэтай задачы. Неабходна зараз-жа распрацаваць мерапрыемствы па ажыцьцяўленьню гэтае задачы і рашэньняў XVI усесаюзнай партканфэрэнцыі аб калгасным будаўніцтве. Разам з гэтым:

а) праверыць і паведаміць ЦК не пазьней 1-га верасьня, у якой ступені выкананы дырэктывы аб арганізацыі партыйных ячэек у калгасах, аб лепшым абслугоўваньні калгасаў партыйнымі ячэйкамі, аб уцягненьні камуністых і камсамольцаў у склад калгасаў і аб арганізацыі цэнтраў культурна-асьветнае працы ў калгасах;

б) сыстэматычна падбіраць і ўмацоўваць склад кіраўнікоў калгаснага будаўніцтва, не дапускаючы частай перасоўкі іх на другую работу. Спыніць зьмену кіруючых работнікаў калгасаў без узгадненьня з памянёнымі калгасамі і саюзамі.

Вясковаму аддзелу ЦК у двухтыднёвы тэрмін сумесна з Белкалгассаюзам і Наркамасьветы прадставіць у Бюро ЦК канкрэтную прапанову аб падрыхтоўцы кадраў работнікаў калгаснага будаўніцтва.

Наркамасьветы пры камплектаваньні Сельска-гаспадарчай акадэміі і іншых спэцыяльных навуковых устаноў дамагацца максымальнага папаўненьня іх за лік калгаснай моладзі.

11. Даручыць вясковаму аддзелу ЦК праверыць, як выконваюцца пастановы ЦК ад 4/IV—28 г.

## Аб нагрузцы практычнай работай і палітвыхаваньні новага партыйнага папаўненьня.

*(Пастанова ЦК ад 27/V-29 г.).*

Выходзячы з дырэктывы ЦК УсеКП (б) і XII-га зьезду КП(б)Б аб „абавязковым забясьпечаньні выхаваньня праз партыйную і палітасьветную адукацыю ўсіх новых, уцягваемых у партыю, кадраў рабочых, батракоў і с.-г. рабочых", Сэкратарыят ЦК КП (б) Б пастанаўляе:

1. Партарганізацыям і ячэйкам дабіцца ў сваёй штодзеннай працы ўцягненьня новых партыйных кадраў на прадпрыемствах і ў вёсцы (батракоў, с.-г. рабочых) у практычную партыйную работу і поўнага абхопу іх партвучобай. Дыфэрэнцыраваць работу, прыстасаваўшы яе да палітычнага і культурнага ўзроўню, вытворчых і бытавых умоў (зьменная работа, памяшкальныя ўмовы, на вёсцы раскіданасьць партыйцаў і інш.), а таксама да нацыянальных асаблівасьцяй прынятых у партыю.

2. Рашуча дабівацца поўнага рэгуляваньня нагрузкі практычнай работай, дабіўшыся каб кожны з уступіўшых у партыю не застаўся без партыйнай ці грамадзкай нагрузкі, не дапускаючы аднак іх перагрузкі. Весьці вучот грамадзкай і партыйнай нагрузкі, вывучаючы кожнага кандыдата ў сувязі з яго ранейшай нагрузкай, яго імкненьнямі і прыхільнасьцю, праводзячы мэтад добраахвотнага выбару партнагрузкі.

3. Забясьпечыць самыя ўважлівыя і чулыя адносіны да новых партыйцаў. У кожным цэху, групе, зьвяне мець вучот кандыдатаў, устанавіўшы з імі сыстэматычную сувязь старых партыйцаў для дапамогі ім у працы. Зьвярнуць увагу на ўцягненьне новых кадраў у масавую работу, на праверку іх удзелу ў шэрагу мерапрыемстваў, масавых кампаній, якія праводзяцца на прадпрыемстве альбо ў вёсцы.

4. Уважліва і строга трэба прасачыць за выкананьнем кандыдатамі прасьцейшых партыйных абавязкаў (уплата парт. узносаў, наведваньне партсходаў), не пакінуўшы без адпаведнага рэагаваньня ў выпадку невыкананьня, вывучыўшы прычыны, прымаючы папярэджваюча-выхаваўчыя меры.

5. Практыкаваць правядзеньне пэрыядычных нарад альбо сходаў кандыдатаў у цэхгрупах, зьвеньнях для гутарак па шэрагу пытаньняў, якія іх цікавяць, як агульна-палітычных, так і практычных, з пастаноўкай на іх таксама дакладаў сэкратара цэхячэйкі, групорга, зьвеньорга і прымацаванага да працы з кандыдатамі аб выніках працы з апошнімі.

6. Бліжэйшай задачай партвучобы новых партыйцаў павінна быць поўнае вывучэньне пастаноў XV зьезду УсеКП (б), XII зьезду КП (б) Б, апошніх пленумаў і XVI Усесаюзнай партканфэрэнцыі з упорам на ўсваеньне генэральнай лініі партыі, барацьбы з ухіламі, асабліва правым і прымірэнцтвам да яго.

Побач з гэтым, у першую чаргу заняцца вывучэньнем з імі статуту і праграмы партыі. Вывучэньне гэтых пастаноў павінна шырока ўвязвацца з мясцовай практыкай.

Агітпропу і БДВ забясьпечыць выданьне статутаў і праграм партыі і рэзалюцый зьездаў.

7. Лічыць ненармальным уключэньне прымаемых у партыю ў сярэдзіне навучальнага году ва ўжо існуючыя школы палітграматы, а ўзяць курс на арганізацыю самастойных школ і гурткоў на прадпрыемствах для сыстэматычна ўцягваемых у партыю, уцягваючы таксама беспартыйных рабочых і работніц для падрыхтоўкі іх у партыю. Лічыць асабліва важным прывучэньне ўступіўшых да самастойнага чытаньня газэт, устрайваць на першы час гучныя чыткі, рэкамэндуючы ім артыкулы па пытаньням, якія іх цікавяць.

8. Неабходна стварыць школы і гурткі для новых і больш адсталых старых партыйцаў пры саўгасах і калгасах, уцягваючы ў іх таксама беспартыйных батракоў і сельскагаспадарчых рабочых.

9. Ва ўмовах вёскі, асабліва ў летні час, улічваючы плянавыя работы і раскіданасьць, стварыць, галоўным чынам, гурткі па пытаньням бягучай палітыкі, газэтныя гурткі і гурткі па вывучэньню статуту і праграмы партыі, вывучэньню асноўных рашэньняў, прымацаваўшы да іх старых партыйцаў і кансультантаў. Зьвярнуць больш увагі абслугоўваньню кандыдацкіх груп, аказваючы ім канкрэтную дапамогу ў рабоце.

10. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ліквідацыю агульнай няпісьменнасьці новых партыйцаў, абавязкова дабіўшыся, як правіла, поўнай ліквідацыі агульнай няпісьменнасьці да часу пераводу ў члены, ужываючы з гэтай мэтай лікпункты, групавое навучаньне і індывідуальнае прымацаваньне.

11. Пры правядзеньні работы з работніцамі, батрачкамі, прынятымі ў партыю, строга ўлічыць іх бытавыя ўмовы, арганізаваўшы для іх групавыя заняткі, канцэнтруючы гэтую работу галоўным чынам у інтэрнатах, жактах, стварыўшы такія ўмовы, каб жанчына-работніца магла-б сапраўды абучацца.

12. Партарганізацыям і ячэйкам дабіцца сваечасовага пераводу кандыдатаў рабочых і работніц у партыю. Адначасова неабходна рашуча адмовіцца ад мэханічнага пераводу ў члены па сканчэньні кандыдацкага стажу, а павінна быць праведзена праверка і ацэнка кожнага таварыша перад пераводам. Работу па пераводу паставіць так, каб кожны кандыдат сам сьвядома і сваечасова ўзьнімаў гэтае пытаньне перад ячэйкай.

# У АДДЗЕЛАХ ЦК КП(б)Б.

## Аб працы сярод літоўскага насельніцтва.

*(Літоўскае бюро).*

22 чэрвеня скончыла сваю працу другая Ўсебеларуская нарада літоўскіх партпрацаўнікоў. На нарадзе ўдзельнічала 25 таварышоў з розных нашых акруг, а таксама прадстаўнікі літоўскіх рабочых арганізацый Масквы, Ленінграду і Харкаву. Гэтая нарада пад'агуліла працу Літбюро ЦК КП(б)Б за апошні год і вызначыла шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьню працы сярод працоўнага літоўскага насельніцтва БССР.

Да апошняга часу ў літоўскіх вёсках наглядалася вялікая нацыянальная замкнутасьць, уплыў кулацкіх элемэнтаў на серадняка і на беднату (кулак пасьпяхова карыстаўся гасламі нацыянальнага адзінства), клерыкальныя элемэнты адыгрывалі кіруючую ролю ва ўсім жыцьці літоўска-каталіцкіх мас.

Правядзеньне шэрагу мерапрыемстваў па культурнаму абслугоўваньню літоўскіх вёсак (за апошнія два гады адчынена 12 пачатковых літоўскіх школ, адна хата-чытальня, арганізавана 17 чырвоных куткоў), скліканьне першага Ўсебеларускага зьезду сялян-літоўцаў, правядзеньне раённых канфэрэнцый беспартыйных сялян-літоўцаў, а таксама выданьне літоўскай газэты адыграла вялікую ролю ў перамене жыцьця літоўскай вёскі на Беларусі.

Зараз ужо ўсюды бачым яскравую клясавую барацьбу літоўскай беднаты з кулацтвам. Узьнялася палітычная сьвядомасьць літоўскага насельніцтва. Гэта ўсё станоўчыя бакі. Але мы наглядаем у літоўскіх калёніях вельмі шмат адмоўнага.

Кулацкія элемэнты, якіх пры ўпарадкаваньні зямлі абрэзалі, сваю варожасьць к Савецкай уладзе стараюцца выказаць як пакрыўджаная нацыянальная меншасьць. Кулак шукае сабе апоры ў каталіцкім духавенстве, якое сьпяшыць літоўскаму кулацтву на падмогу ня толькі „духоўнай“ сілай, але і контррэвалюцыйным афармленьнем. Трэба дадаць, што разьмеркаваньне клерыкальных сіл па раёнах з літоўскім насельніцтвам добра разьлічана і „плянава“ выкарыстоўваецца. Амаль кожная літоўская калёнія ксяндзом абслугоўваецца на роднай літоўскай мове. Не бракуе і „бажэственнай“ літаратуры, якая старанна „трапінкамі“ дастаўляецца з Коўны.

Апошні час заўважваецца ўзмацненьне антысавецкай агітацыі ў большасьці літоўскіх вёсак. Кулацтва і клерыкальныя элемэнты выступаюць з адкрытай варожай нам прапагандай. Чаму мы не заўсёды даем неабходны адпор наступленьню капіталістычных элемэнтаў у літоўскай вёсцы і дапушчаем памылкі ў нашай працы?

У акруговых арганізацыях налічваецца да двухсот камуністаў, якія ведаюць літоўскую мову, добра знаёмы з асаблівасьцямі жыцьця літоўскага насельніцтва. Каб толькі часткова выкарыстоўваць у дапамогу мясцовым ячэйкам камуністаў, ведаючых літоў-

скую мову, магчыма было-б дабіцца большых посьпехаў у нацпрацы, чым зараз маем сярод літоўскага насельніцтва. Да гэтага часу большасьць раённых і акруговых арганізацый глядзяць на літоўскую працу, як на нейкі добраахвотны дадатак. Пры Віцебскім і Аршанскім АК КП(б)Б маюцца Літбюро, пры Полацкім, Магілеўскім, Гомельскім і Менскім, маюцца вылучаныя ўпаўнаважаныя на літпрацы, але ніхто ня выканаў намечаных пляпаў працы сярод літоўскага насельніцтва і ніводная арганізацыя не паклапацілася праверыць становішча працы і прыцягнуць за невыкананьне вінаватых да партыйнай адказнасьці.

Калі для прыкладу ўзяць Магілеўскую акругу, у якой маецца вялікая літоўская калёнія „Сафэйск" (54 двары) у адлегласьці 26 кіл. ад гораду, то камуністы-літоўцы, якія працуюць у горадзе, якім даручана праца сярод літоўскага насельніцтва, нічога канкрэтнага на працягу году ў гэтай вёсцы не зрабілі. Вёску „Сафэйск" прыходзіцца абслугоўваць масавай працай студэнтамі літ. сэктару КУНМЗ з Масквы. За тое Магілеўскі ксёндз у год па некалькі раз бывае ў „Сафэйску", бо ён, як кажа, ня грэбае малай аўдыторыяй.

У гарадох не наладжана клюбная праца. Калі ў Менску і Віцебску маюцца арганізаваныя літоўскія клюбныя сэкцыі, то яны ня маюць адпаведнага памяшканьня і неабходных сродкаў (у Віцебску літоўская клюбная сэкцыя зьмяшчаецца ў падвале, дзе раней ксёндз хаваў на зіму сваю капусту).

Для палепшаньня ўмоў працы сярод літоўскага насельніцтва ў нас ёсьць дастаткова сіл і магчымасьцяй.

Каб дакладна правесьці ў жыцьцё ўсе дырэктывы партыі па нацрабоце, неабходна кожнаму партыйцу энэргічна выконваць даручаную яму партыяй працу, ужываючы ўважлівы падыход да нацыянальных асаблівасьцяй літоўскага насельніцтва, стараючыся не абыйсьці сваёй працай ні малейшай вёскі, ні адзінай рабочай сям'і,—тады рост у нашай працы будзе забясьпечны.

*Бучукас.*

# У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАНТРОЛЬНАЙ КАМІСІІ КП(б)Б.

## Выправіць хібы ў падрыхтоўчай працы па праверцы і чыстцы партыі.

Праходзіўшая па Менскай і інш. арганізацыях праверка кіруючых кадраў КП(б)Б і таварышоў, вылучаных у праверкомы, паказала шмат недапушчальных адмоўных момантаў у падрыхтоўцы праверкі і чысткі партыі.

У зьвязку з гэтым ЦК і ЦКК зьвярнуліся з лістом да ўсіх АК, АКК і РК КП(б)Б, у якім паказваюцца ўсе гэтыя недахопы і даюцца канкрэтныя дырэктывы, як іх выправіць. У лісьце—на падставе вопыту па Менскай акрузе—падкрэсьліваецца „аб недапушчальнасьці такіх зьявішч, як няяўка або спазьненьне паасобных сакратароў ячэек на сходы (сакратар ячэйкі Камвузу зусім не зьявіўся на сход, а сакратар ячэйкі ВСНГБ зьявіўся з вялікім спазьненьнем), няяўка на сходы ў некаторых ячэйках значнай часткі партыйцаў бяз уважлівых прычын, запрашэньне на сходы ня ўсіх беспартыйных рабочых, а толькі некаторых актывістаў рабочых—„па выбары" (абутковая фабрыка, Менск).

Прыведзеныя факты сьведчаць аб непадрыхтаванасьці да чысткі некаторых ячэек, аб неўяўленьні імі сваіх (ячэйкавых) задач у часе праверкі і чысткі радоў партыі, аб няведаньні партдырэктыў да чысткі, аб няўменьні арганізаваць вакол гэтае работы беспартыйных рабочых. Прыведзеныя факты сьведчаць аб недысцыплінаванасьці некаторае часткі партыйцаў, у тым ліку членаў Бюро і нават сакратароў ячэек.

Улічваючы ўсе гэтыя недахопы і дзеля папярэджаньня іх, ЦК і ЦКК КП(б)Б у гэтым лісьце прапануюць:

1) АК, АКК і РК КП(б)Б неадкладна праверыць усваеньне ўсёй партарганізацыяй задач чысткі і дабіцца поўнага ўяўленьня ўсімі ячэйкамі іх задач па чыстцы-праверцы, уяўленьня ўсімі членамі і кандыдатамі партыі важнасьці гэтае работы. Дзеля гэтага неабходна зараз-жа—да пачатку чысткі-праверкі ячэек—у тых мясцох, дзе недастаткова прапрацованы дырэктывы аб праверцы і чыстцы партыі, яшчэ раз прапрацаваць на адкрытых ячэйковых сходах пастановы XVI партканфэрэнцыі, інструкцыі і інструкцыйныя лісты ЦКК Усе КП(б) аб праверцы і чыстцы радоў партыі і тым папярэдзіць недапушчэньне выяўленых пры праверцы кіруючых кадраў і праверкомаў памылак і недахопаў як пры праверцы складу праверкомаў, так і ячэек.

2) АК, АКК і РК КП(б)Б улічыць, што недастатковая яўка рабочых на куставыя сходы ў Менску ў значнай меры залежала ад таго, што гэтыя сходы скліканіся ў адлегласьці ад прадпрыемстваў, і што ня была праведзена дастатковая растлумачальная работа з боку некаторых ячэек сярод беспартыйных. У далейшым райкомам і ячэйкам КП(б)Б узмацніць растлумачальную работу сярод беспартыйных рабочых і працоўных мас сялянства (батрацтва, беднаты і серадняцтва), дабіваючыся шырокага актыўнага іх удзелу на сходах прысьвечаных праверцы і чыстцы радоў партыі. Праверсходы праводзіць абавязкова пры прадпрыемствах, загадзя абвясьціўшы аб гэтым рабочых з указаньнем месца, часу і парадку правядзеньня сходу; у вёсцы

ўлічваць пры скліканьні сходаў тэрытарыяльныя ўмовы, шырока апавяшчаючы сельска-гаспадарчых рабочых, батрацтва, беднату і серадняцтва.

3) Дзеля папярэджаньня выпраўленьня „на ходу" выяўляемых недахопаў у рабоце праверкомаў па праверцы і чыстцы вайсковых і вясковых арганізацый, АКК пасьля чысткі некалькіх ячэек (аднэй-двух ячэек на раён, аднэй і двух ячэек у палкох) правесьці пры АКК нарады старшынь праверкомаў для абмену вопытам работы праверкомаў і скарыстаньня гэтага матар'ялу ў друку. Матар'ял гэтых нарад тэрмінова даслаць у ЦКК КП(б)Б для вучоту вопыту.

4. АК і АКК праверыць дырэктывы аб складаньні райкомамі характарыстык на ячэйкі ў горадзе (савецкіх і навучальных устаноў), і забясьпечыць сваечасовае выкананьне гэтае дырэктывы да пачатку чысткі гэтых ячэек.

5) Улічваючы тое, што падрыхтоўка да чысткі партыі ў шэрагу месц ня была ўвязана з вярбоўкай у шэрагі партыі новых кадраў рабочых, сельска-гаспадарчых рабочых, батрацтва і лепшай часткі беднаты, АК, РК і ячэйкам КП(б)Б максымальна ўзмацніць гэтую работу ў часе чысткі і праверкі ячэек. Кантрольным камісіям і праверкомам зьвярнуць увагу на гэтую частку работы ячэек.

6) ЦК і ЦКК КП(б)Б падкрэсьлівае, што сакратары і члены бюро ячэек асабліва павінны аказваць усямерную дапамогу праверкомам; няяўка сакратароў альбо членаў бюро на ячэйковыя сходы, у сувязі з чысткай і праверкай (як гэта было заўважана ў Менску) няпрыняцьце імі сваечасовых мер і дастатковых мер па прыцягненьню беспартыйных рабочых на сходы, дапушчэньнэ няяснасьці недасканаласьці і заблытанасьці ў апавяшчэньні гэтых сходаў, непадрыхтаванасьці месца для сходаў, спазьненьне арганізатараў на сходы і іншыя арганізацыйныя недахопы—будуць улічвацца пры праверцы, як дэзарганізацыя і падрыў работы па чыстцы і праверцы партыі.

## Аб каляндарных тэрмінах праверкі і чысткі радоў КП(б)Б.

*(Пастанова Бюро ЦК і Прэзыдыуму ЦКК ад 11-VI—29 г.).*

У зьмену тэрмінаў, прынятых Бюро ЦК і Прэзыдыумам ЦКК КП(б)Бел. аб праверцы і чыстцы КП(б) 13 мая, зацьвердзіць наступныя тэрміны праверкі і чысткі КП(б)Бел.

1. Лічачыся з тым, што праверка кіруючага складу КП(б)Б і акруговых партарганізацый яшчэ працягнецца на некаторы час і што да сканчэньня гэтай праверкі камісіяй ЦКК УсеКП(б) у паасобных акругах нельга прыступіць да праверкі і чысткі партарганізацый, таму, выходзячы з гэтага, а таксама прымаючы для кіраўніцтва дырэктыву ЦКК УсеКП(б) аб тым, каб чыстку радоў партыі ў асноўным скончыць да 1 сьнежня 1929 г., Бюро ЦК і Прэзыдыум ЦКК пастанаўляе правесьці чыстку:

а) вайсковых і вясковых парт'ячэек з 20-VI—да 15 жніўня. Пачатак 20 чэрвеня лічыць для тых акруг, дзе ўжо адбылася праверка кіруючага складу акругі.

б) Гарадзкіх— нявытворчых, савецкіх і вузаўскіх ячэек з 1-га верасня па 15 кастрычніка.

в) Вытворчых — з 15-га кастрычніка па 1 сьнежня.

*Увага:* Ячэйкі пагранічнай варты будуць праверaны асобна, аб чым будуць дадзены дадатковыя паказаньні.

2. Прапанаваць Акруговым КК скласьці каляндарныя пляны па акругах, улічваючы мясцовыя асаблівасьці, прытрымліваючыся ўстаноўленых вышэйпамянёных тэрмінаў і паведаміць ЦКК не пазьней 10 ліпня.

3. Праверку і чыстку местачковых ячэек невясковага тыпу, савецкіх у раённых цэнтрах, саўгаскіх, а таксама і вытворчых ячэек на дробных (да 25 членаў і кандыдатаў партыі) прадпрыемствах, знаходзячыхся ў раёнах, правесьці разам з праверкай і чысткай вясковай партарганізацыі.

4. Улічваючы тое, што Аршанская, Мазырская і Полацкая арганізацыі ня могуць забясьпечыць сваімі сіламі склад правертроек, прапанаваць Менскай АКК вылучыць для Аршанскай акругі 15 таварышоў з рабочых, Гомельскай для Мазыру—12, Віцебскай — для Полацку—10. Гэтыя таварышы павінны быць праверaны ў сваіх партарганізацыях на агульных падставах згодна інструкцыі, а таксама аб іх павінны быць шырока інфармаваны тыя арганізацыі, у якіх ім прыдзецца праводзіць праверку, з захаваньнем парадку зацьверджаньня складу правертроек, згодна інструкцыі аб чыстцы і праверцы радоў партыі.

## Аб барацьбе з растратамі.

ЦКК зьвярнуўся з лістом да ўсіх Акруговых Кантрольных Камісій, дзе паказваецца, што, ня гледзячы на неаднаразовае завастрэньне ўвагі партарганізацый вакол барацьбы з растратамі і запазычанасьцю ў савецкіх і грамадзкіх органах,—да гэтага часу мы ня толькі ня маем зьнішчэньня гэтых зьявішч, а наадварот *за апошні час рост растрат павялічыўся.*

Узмацняючы жорсткія меры барацьбы як з растратамі, гэтак і з запазычанасьцю па савецкай лініі ў адносінах канкрэтных віноўнікаў і кіраўнікоў тых устаноў, дзе з прычыны слабога кантролю і папусьціцельства для растрат і запазычанасьці ствараецца спрыяючая глеба,—аднначасова з гэтым АКК павінны прыняць шэраг рашучых мер і па партлініі.

Перш за ўсё неабходна пытаньне аб рашучай барацьбе і аб мерапрыемствах па недапушчэньню растрат і запазычанасьці самым шырокім чынам асьвятліць на адчыненых сходах парт'ячэек, у друку, насьценгазэтах, на сходах пайшчыкаў, на канфэрэнцыях прафсаюзаў, камсамолу і г. д., дабіваючыся ўсюды распрацоўкі канкрэтных мерапрыемстваў папярэджваючага характару ў дапасаваньні да ўмоў тэй ці іншай установы (сыстэматычныя рэвізіі, нечаканыя „налёты-рэвізіі"; абавязковая здача сродкаў; сваечасовая праверка справаздач; ускладаньне адказнасьці за праверку і кантроль і г. д.).

У гэтым напрамку асабліва важную ролю адыгрываюць рэвізійныя камісіі і ўцягненьне ў рэвізіі і праверку прадстаўнікоў шырокіх мас (пайшчыкаў, сялян, рабочых, сэкцый і г.д.) і прадстаўнікоў АПВ. Аб'яднаньне прадстаўнікоў вучоту. Рабоце рэвізійных органаў—у ліку іншых мерапрыемстваў—неабходна ўдзяліць максымум увагі.

Затым вялікае значэньне мае сапраўдная, а не паказная, *рашучая і жорсткая барацьба з тымі партыйцамі, якія вінаваты ў растратах ці ў запазычанасьці як у сэнсе непасрэдных растрат і запазычанасьці, гэтак і ў якасьці асоб. ня прымаючых мер да зьнішчэньня гэтага.*

Усе партыйцы, аказаўшыяся вінаватымі ў гэтых злачынствах, павінны прыцягвацца да адказнасьці і па савецкай і па партыйнай лініі бяз ніякага сьнісхаджэньня, а справы іх неабходна як-мага шырэй асьвятляць у друку, на сходах і інш.

Бязумоўна, каб дабіцца рашучага пералому ў бок зьнішчэньня растрат і запазычанасьці — *неабходна задачу гэту ставіць не як часовую кампанію, а як сталую штодзённую задачу ўсёй партыйнай, савецкай і грамадзкай работы.*

Высоўваючы гэта пытаньне, Прэзыдыум ЦКК зварачвае ўвагу АКК на пастанову Калегіі НКРСІ ад 1-VI—29 г., дзе паказан шэраг практычных мерапрыемстваў па барацьбе з растратамі для кіраваньня і праверкі выкананьня збоку суадпаведных савецкіх, гаспадарчых і каапэрацыйных арганізацый.

Ажыцьцяўленьне гэтых мерапрыемстваў побач з ажыцьцяўленьнем тых задач, якія вышэй паказаны, пры дастатковай увазе збоку партыйных органаў дасьць магчымасьць дабіцца значных посьпехаў у зьнішчэньні растрат.

# З АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАКТЫКІ МЕЙСЦ.

## Разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва.

### Полацкая акруга.

Разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва па Полаччыне да апошняга часу ўсё яшчэ праходзіць слаба. Пытаньні сацыялістычнага спаборніцтва ў большасьці абгаварваюцца толькі на вузкіх нарадах актыву (мясцкомы, бюро ячэек), а ў некаторых мясцох яшчэ зусім не абгаварваліся. Растлумачальная работа сярод шырокіх колаў рабочых амаль не праведзена, дзякуючы чаму ў часткі рабочых няма правільнага ўяўленьня аб асноўных задачах сацыялістычнага спаборніцтва. Культ-масавая праца прафарганізацый яшчэ не перабудавана ў напрамку садзейнічаньня разгортваньню спаборніцтва. Вытворчыя нарады і камісіі яшчэ не прыстасаваліся да канкрэтнага ўдзелу ў гэтай працы. Слаба ўдзельнічае ў арганізацыі спаборніцтва камсамольская арганізацыя. Друк (газэта „Чырв. Полаччына" і асабліва насьценгазэты) слаба асьвятляе ход сацыялістычнага спаборніцтва і пакуль-што не зьяўляецца арганізатарам гэтае працы. У выніку ўсіх гэтых недахопаў соцыялістычнае спаборніцтва нават там, дзе яно распачалося, рэальных вынікаў яшчэ не дало.

Адным з вялікіх недахопаў зьяўляецца аднабаковасьць правядзеньня спаборніцтва толькі паміж асобнымі прадпрыемствамі. Няма належнай арганізацыі спаборніцтва паміж цэхамі і паасобнымі рабочымі ўнутры прадпрыемства. Гаспадарчыя органы ня прыступілі яшчэ канкрэтна да рэарганізацыі сваёй работы ў мэтах забесьпячэньня лепшай арганізацыі і правядзеньня спаборніцтва.

Выходзячы з гэтага, Полацкі Акругком намеціў, у якасьці неадкладных, шэраг мерапрыемстваў па далейшаму разгортваньню сац. спаборніцтва. Усім партячэйкам прапанавана на бліжэйшых пасяджэньнях бюро і сходах ячэек праве-

рыць ход спаборніцтва ў тых ячэйках, дзе гэтае пытаньне зусім не абгаварвалася, павінны быць зараз-жа намечаны практычныя мерапрыемствы па разгортваньню спаборніцтва; ячэйкі павінны праз масавыя сходы, групавую і індыв. агітацыю разгарнуць шырокую растлумачальную работу. Усім партыйным, прафэсыйным, гаспадарчым і каапэрацыйным арганізацыям прапанавана прыступіць зараз-жа да адпаведнай перабудовы культ.-масавай працы, праводзячы для абгаварэньня гэтага пытаньня нарады культ. актыву, арганізаваць шырокае асьвятленьне ходу спаборніцтва ў друку праз адпаведнае інструктаваньне рабкораў. Фракц. АБПС і партячэйкам даручана прыняць неабходныя меры да забесьпячэньня поўнага кіраўніцтва ходам спаборніцтва. АК прызнаў неабходным праз шэфкамісіі арганізаваць удзел у разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы, правесьці конкурс на лепшы сельска-гаспадарчы раён, разгарнуць спаборніцтва па савецкіх установах. Усім партячэйкам прапанована ў бліжэйшы час праверыць удзел КСМ у спаборніцтве. Акрамя таго, Акругком прапанаваў усім РК КПБ прапрацаваць шэраг мерапрыемстваў па разгортваньню сац. спаборніцтва на вёсцы і прапрацаваць на райсходах і сходах вясковых ячэек адозву XVI Партканфэрэнцыі.

### Віцебская акруга.

З боку прафсаюзаў і партыйных арганізацый Віцебшчыны да апошняга часу не зьвяртался належнай ўвагі разгортваньню спаборніцтва. Наглядаюцца нават бюрократычныя адносіны да гэтай справы. Віцебскі Акругком па дакладу аб ходзе спаборніцтва канстатаваў наступныя недахопы: адсутнічае зусім вучот дасягненьняў і вопыту сац. спаборніцтва, параднасьць, заключэньне дагавароў, без дастатковага асьвятленьня задач спаборніцтва сярод рабочых і канкрэтызацыі гэтых задач. У выніку наглядаецца неразуменьне часткай рабочых і нават партыйцаў сутнасьці спаборніцтва.

Недастаткова завострана ўвага ўздыму якасьці прадукцыі. Акруговыя і насьценныя газэты слаба ўдзельнічаюць у правядзеньні спаборніцтва. Зусім недапушчальныя адносіны наглядаюцца з боку гаспадарнікаў, частка з якіх незразумела і недаацаніла сутнасьці і значэньня спаборніцтва і зусім бюрократычна падыйшла да гэтага пытаньня. Нажаль, Акругком замест практычных па зьнішчэньню гэтых недахопаў мер, абмежаваўся агульнай дырэктывай—„Усім арганізацыям, на працягу месяца спыніць (?) гэтыя недахопы“.

## Культурна-масавая праца ў калгасах.

### Мазырская акруга.

Культурна-масавая праца ў калгасах Мазыршчыны да апошняга часу ўсё яшчэ праводзіцца слаба, бясплянава і несыстэматычна і нямае належнага зьместу. У новых калгасах культ.-масавая праца амаль зусім адсутнічае. Асноўнай прычынай слабасьці культ-масавай працы ў калгасах зьяўляецца зусім нездавальняючая ўвага гэтаму пытаньню з боку партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый. Так, напрыклад, калгассэкцыя за ўвесь час свайго існаваньня ні разу не абгаварвала пытаньня аб палепшаньні культ.-масавай працы ў калгасах; большасьць РК і ячэек у сваёй штодзённай працы праходзяць зусім міма гэтае працы.

Выходзячы з таго, што зараз асабліва патрэбна дабіцца рашучага пералому ў пастаноўцы культ.-масавай працы ў калгасах, Мазырскі Акругком даў шэраг указаньняў у гэтым напрамку. АК прапанаваў усім арганізацыям (пачынаючы з Акругі і да ячэйкі) унесьці

ў пляны працы абгаварэньне паасобных пытаньняў культ.-масавай працы ў калгасах (напрыклад, удзел калгасу ў працы с./с., каапэрацыі, ліквідацыі няпісьменнасьці ў калгасах і г. д.) АПА АК даручана ўключыць ў праграмы ўсіх школ і палітгурткоў распрацоўку пытаньняў калектывізацыі.

Важнейшай формай прыцягненьня кожнага калгасьніка да ўдзелу ў будаўніцтве калгасу і агульна-грамадзкім жыцьці вёскі, павінна зьявіцца разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі. Па ўсім больш буйным калгасам (пачыняючы з 10—12 сямей) павінны быць вылучаны культ.-бытавыя камісіі, а ў дробных калгасах-культарганізатары; прапанавана па ўсім калгасам арганізаваць сыстэматычнае правядзеньне вытворчых нарад, якія павінны стаць калектыўным органам па рацыяналізацыі вядзеньня гаспадаркі і паднясьцю вытворчай дысцыпліны. АК прызнаў неабходным стварэньне ў кожным калгасе культфонду ў разьмеры 12% валавога даходу. РК, ячэйкам, савецкім і каапэрацыйным органам прапанавана прыняць меры да ўцягненьня калгасьнікаў у працу с./с., хат-чытален і наогул у грамадзкім жыцьці вёскі, наладзіць абслугоўваньне калгасьнікаў настаўнікамі, аграномамі, урачамі. Органам П/асьветы і ТПН прапанавана на працягу 1929-30 г. правесьці 100% ліквідацыю няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў. АПА АК даручана ў 1929-30 г. па ўсіх буйных калгасах правесьці партыйныя школы перасоўкі. Прызнана неабходным павялічыць выпіску газэт у калгасах, як індывідуальную, так і за кошт сродкаў калгасаў. Арганізаваць для калгасаў бібліятэкі-перасоўкі, арганізаваць ва ўсіх больш-менш буйных калгасах насьценгазэты, на працягу 2-х год ва ўсіх калгасах устанавіць радыёўстаноўкі (у больш моцных—за ўласныя сродкі, у астатніх—пры дапамозе грамадзкіх арганізацый).

АК таксама прызнаў неабходным пры складаньні плянаў капітальнага будаўніцтва калгасаў, прадугледзіць пабудову памяшканьняў для культурнай працы; пры далейшым разгортваньні культурных устаноў у акрузе (хат чытален, радыё-ўстановак і г. д.), ня менш 50—60% гэткіх, павінны прыняцца ў буйных калгасах. АК таксама прапанаваў разгарнуць аграномічную асьвету ў калгасах, арганізаваць ва ўсіх калгасах с/г. гурткі; с/г. курсы, якія намечаны правесьці ў зімовы пэрыяд, будуць праводзіцца ва ўсіх буйных калгасах. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на разгортваньне культмасавай працы ў нацыянальных калгасах.

АК прызнаў таксама неабходным пашырыць практыку пасылкі „рабочых брыгад" у калгасы, узмацніць шэфработу над калгасамі. Калгассаюзу прапанавана наладзіць сыстэматычнае вывучэньне вопыту культмасавай працы ў калгасах і вылучыць спэцыяльную штатную адзінку па культмасавай працы ў калгасах. АК ЛКСМБ і Бюро ЮП прапанавана распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па разгортваньню і ўзмацненьню КСМ і піанэр. працы ў калгасах.

## Рост ЛКСМ і партыйнае кіраўніцтва.

### Магілеўская акруга.

Акругком заслухаў даклад аб выніках росту камсамольскай арганізацыі і становішчы партыйна-пралетарскага кіраўніцтва камсамолам. За апошні год адзначаецца некаторае ўзмацненьне партыйна-пралетарскага кіраўніцтва. Партасяродак у камсамольскай арганізацыі павялічыўся з 837 ч. да 887 ч., у складзе Акругкому партыйны асяродак павялічыўся з 65,8 да 67,6%. Рабочы асяродак павялічыўся з 51,4% да 56,7%. У складзе РК ЛКСМБ апошніх перавыбараў: рабочых—26,7% батракоў—23,3%, беднякоў—37,8%,

серадьнякоў—5,4% і іншых—6,8%, сяброў і кандыдатаў партыі—43,8%.

У выніку правільнага рэгуляваньня росту за апошні год адзначаецца павялічэньне ў складзе прыймаемых у КСМ рабочых на 4,9%, батракоў—на 7%, беднякоў—на 1,7% пры зьніжэньні проц. серадьнякоў (на 4,4%), саматужнікаў (на 2%) і служачых (з 8,2% да 0,3%). На 1/V—29 г. арганізацыя камсамолу налічвае 9712 ч., з іх: жанчын—21,3%, рабочых—18,8%, батракоў—9%, беднякоў—47,9%, серадьнякоў—15,2%, саматужнікаў—4,2% і іншых—4,6%. Патрэбна, аднак, адзначыць, што прыведзеныя лічбы аб сацыяльным складзе камсамольскай арганізацыі не зьяўляюцца сталымі.

Недастатковая ўвага часткі ячэек і РК да рэгуляваньня росту, наліччa момантаў няправільнага вызначэньня сац. становішча спрыяюць пранікнавеньню ў шэрагі КСМ чуждых элемэнтаў; шмат выпадкаў, калі серадняк лічыцца бедняком, бядняк—батраком; маюцца выпадкі адсутнасьці клясавага падыходу пры прыёме дзяўчат („прыняць, як дзяўчыну").

Кіраўніцтва працай КСМ з боку партыйцаў і ячэек КПБ усё яшчэ зьяўляецца слабым, а ў шэрагу выпадкаў наглядаюцца фармальныя адносіны да гэтае справы (заслухоўваньне толькі агульных справаздач ячэек КСМ, вылучэньне ў якасьці партпрымацаваных перагружаных т. т.); маюцца выпадкі, нават, скрыўленьня парткіраўніцтва.

Акругком даў шэраг паказаньняў адносна палепшаньня парткіраўніцтва і далейшага рэгуляваньня росту КСМ, у прыватнасьці прапанована ўсім РК КПБ да 1/XII г/г. правесьці праверку выкананьня камсамольскімі арганізацыямі дырэктыў у галіне росту; з гэтай-жа мэтай будзе праведзена сіламі АК КПБ выбарачнае абсьледваньне камсамольскіх арганізацый. Акругком прызнаў неабходным, каб пры справаздачах ячэек і камітэтаў ЛКСМ абавякова заслухоўваліся таксама садаклады партпрымацаваных. Усе РК КПБ да 1/X—29 г. павінны правесьці нарады партпрымацаваных і камсамольцаў-партыйцаў для абгаварэньня практычных мерапрыемстваў у галіне парткіраўніцтва. РК і ячэйкі КПБ павінны пэрыядычна, раз у 6 месяцаў абгаварыць пытаньне росту КСМ. Завострана ўвага камсамолу на пытаньні сыстэматычнай самаачысткі шэрагаў арганізацыі ад чуждых элемэнтаў. Акругком прызнаў мэтазгодным паставіць на адным з пленумаў АК КПБ да канца 1929 г. даклад АК КСМ.

## Вылучэньне жанчын на кіруючую работу.

### Мазырская акруга.

Акругком падвёў вынікі вылучэньня жанчын на кіруючую работу па акрузе. За 8 м-цаў (верасень 1928 г.—май 1929 г.) высунута на савецкую працу 23 жанчыны (11 старш. с/с., 6 сакр. с/с., 3 інспэкт. працы, 1 нарсудзьдзя, 1 ахматмлад, 1 інспэкт. працасьветы), на профработу—3 жанчыны (2 старш. акрпраўленьняў, 1 райінструктар), на гаспадарчую работу—3 жанчыны (заг. працкаляктываў), на каапрацу—7 жанчын (1 старш. сельск. ПО, 5 друг. работн. ПО, 1 у Акрсельсаюз), на партработу—15 жанчын (2 апорга РК КПБ, 8 райжанарганізатараў, 1 сакр. ЛКСМБ, 4 сакр. сельячэек КПБ).

Па сац. складу вылучэнкі падзяляюцца наступным чынам: 27% работніц, 40% сялянак, 6% батрачак, 23% служач. і 5% іншых.

З агульнага ліку вылучэнак 68% парт. і 5 членаў ЛКСМБ; па нацыянальнасьці—44% беларусак, 54%—яўр., 2%—палячак. У сваёй пастанове Акругком адзначыў невыкананьне часткай РК дырэктыў аб вылучэньні жанчын, а таксама слабае вылучэньне на нізавую прафэсыянальную працу і на акруговую працу.

АК прапанаваў у далейшым РК КПБ, АПБ, АВК і каапэр. арганіза-

цыям прыняць меры штодзённай дапамогі і пашырэньня навыкаў кіраўнічай дзейнасьці вылучэнак, шляхам правядзеньня курсаў-нарад, экскурсій і г. д., уцягнуць вылучэнак у школу, гурткі, курсы, а таксама ствараць умовы для індывід. вучобы, сыстэматычна вывучаць працу вылучэнак з мэтай далейшага прасоўваньня іх. АК зьвярнуў увагу фракцый АПБ на павялічэньне прасоўваньня работніц і батрачак на профэсыянальную і гаспадарчую работу.

## Работа савецкіх ячэек КП(б)Б.

### Мазырская акруга.

Акругком праверыў работу савецкіх партячэек у галіне барацьбы з бюрократызмам і палепшаньня апарату. Выявілася, што дырэктывы ЦК Усе КП(б) слаба пераламляліся ў практычнай рабоце ячэек. З боку савецкіх ячэек адзначаюцца недапушчальныя адносіны да выкананьня дырэктыў АК, ЦК КП(б)Б, якія былі дадзены пасьля верасьнёўскага абсьледваньня савецкіх ячэек з боку ЦК. Як матар'ялы абсьледваньня, так і ліст ЦК аб удзеле савецкіх ячэек у рацыяналізацыі апарату ячэйкамі нават не прапрацованы. Ячэйкі не сканцэнтравалі ўвагі на стрыжнёвых пытаньнях работы савецкіх ячэек, як-та: барацьбы з бюракратызмам, рацыяналізацыі апарату, разгортваньня самакрытыкі, вылучэньня. Усе гэтыя пытаньні не знайшлі належнага адбітку ў рабоце ячэек. Праверка выявіла, наадварот, шэраг адмоўных момантаў: нерэагаваньне на моманты бюрократызму, няпрыняцьце рашучых крокаў да разгортваньня самакрытыкі, няўважлівыя адносіны да вылучэнцаў, амаль поўнае адсутнічаньне масавай працы і г. д.

Побач з гэтым, выяўлена слабая падрыхтоўка і няўважлівыя адносіны з боку ячэек, камуністых-кіраўнікоў да чысткі савецкага апарату, у выніку чаго стварыліся ў некаторых мясцох нездаровыя настроі, як з боку асобных праслоек служачых (стварэньне атмасфэры самаабароны, абывацельскай спайкі і г. д.), так і паасобных камуністых (замазваньне недахопаў пры складаньні характарыстык і г. д.).

Праверка выявіла таксама слабае ўжываньне белмовы ў працы па абслугоўваньню наведвальнікаў.

Выходзячы з гэтага становішча, Акругком намеціў шэраг практычных мерапрыемстваў: скліканьне сходаў камуністых савецкіх ячэек для абмяркоўваньня вынікаў праверкі, разукрупненьня паасобных ячэек з мэтай лепшага прыстасаваньня іх работы да абслугоўваньня ўстаноў; з мэтай пасіленьня працы ячэек прапанована Аргаддзелу і Бюро ячэек перагледзіць прымацаваньне камуністых—адказных працаўнікоў; ячэйкам прапанована зараз-жа прыняць рашучыя крокі да разгортваньня падрыхтоўкі да чысткі апарату.

## Праца сярод вылучэнцаў.

### Бабруйская акруга.

Праверка, якая праведзена Бабруйскім Акругкомам, выявіла, што праца з вылучэнцамі па Бабруйшчыне праходзіць зусім слаба. У акруговым маштабе за год праведзена ўсяго адна нарада вылучэнцаў; па лініі акруговых і раённых устаноў нарады вылучэнцаў амаль зусім ня склікаліся. Кіраўнікі ўстаноў незаўсёды дапамагаюць вылучэнцам у працы, не ствараюць належных умоў для іх працы. Маюцца выпадкі сьвядомай перашкоды ў працы вылучэнцаў.

Каб унікнуць гэтых недахопаў у далейшым Акругком прапанаваў усім акруговым установам ня менш аднаго разу ў 3 м-цы праводзіць нарады вылучэнцаў. Такія-ж нарады павінны склікацца РК КПБ на раёнах. Адначасова ўсім парткомам

прапанавана сваечасова рэагаваць на нячулыя адносіны да вылучэнцаў у іх практычнай працы, асабліва да жанчын. У мэтах замацаваньня сувязі вылучэнцаў са сваімі прадпрыемствамі альбо вёскамі, АК прызнаў неабходным ня менш 2 разоў у год практыкаваць выезды вылучэнцаў для інфармацыі на сходах аб сваёй працы. Усім загадчыкам установў і партячэйкам прапанавана не перагружаць адразу вылучэнцаў, а ўцягваць іх у працу паступова. Адначасова, у мэтах павышэньня кваліфікацыі вылучэнцаў, прапанавана забясьпечыць іх адпаведнай літаратурай.

## Становішча калгасаў і работа па калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

### Магілеўская акруга.

Пленум Магілеўскага Акругкому, азнаёміўшыся са становішчам калгасаў і работай па калектывізацыі ў акрузе, прызнаў, што ня гледзячы на маючыяся некаторыя цяжкасьці і рашучае супраціўленьне з боку варожа-кулацкай часткі, грамадзкая думка бядняцка-серадняцкай часткі сялянства згуртавалася вакол справы калектывізацыі і дае рашучы адпор усім перашкодам. Значна павялічылася па акрузе сетка калгасаў (на І/Х-28 г. было 219, на І/V-29 г.—303). Аднак, пленум прызнаў, што ўдзельная вага плошчы, занятай калгасамі, у адносінах да ўсяе плошчы сялянскіх гаспадарак, усё яшчэ нязначна (1,7%). Пленум адзначыў палепшаньне эканамічнага становішча раней арганізаваных калгасаў і падвышэньне ўраджайнасьці ў іх супроць індывідуальных гаспадарак. Прызнана яшчэ недастатковай таварнасьць калгасаў. Адзначан пачатак адлічэньня ва ўласныя недзялімыя капіталы.

У рабоце па калектывізацыі Пленум знайшоў цэлы шэраг недахопаў і слабага выкананьня асобных дырэктыў у гэтым напрамку.

Усё яшчэ малая праслойка партыйцаў і камсамольцаў у калгасах. Па некаторых раёнах яшчэ праця̇гваецца арганізацыя дробных калгасаў (45,40,38 і амаль 16 га), дзякуючы чаму значна зьніжаецца ўстаноўленая сярэдняя плошча (з 140 га да 107,5 га)

Слаба ідзе зьніжэньне проценту заможных у калгасах (з 7,7% на І/Х-28 г. да 6,4% на І/V-29 г.) і назіраюцца выпадкі прыёму ў калгасы чуждага элемэнту (поп, дзяк, жандар, крымінальны элемэнт).

Зусім слаба выконваецца дырэктыва аб узбуйненьні існуючых калгасаў. У значнай частцы калгасаў да гэтага часу ўжываецца яшчэ наёмная праца, пры нескарыстаньні маючыхся рабочых рук. У самых калгасах назіраецца замкнутасьць, нежаданьне прыёму новых членаў у калгасы, асабліва з батрацка-бядняцкіх пластоў, фонды каапэраваньня беднаты ў большасьці калгасаў не скарыстаны.

Слаба праводзіцца ў калгасах культмасавая работа.

Крэдытаваньне калгасаў праводзіцца без дэталёвага вывучэньня яго патрэб, не заўсёды крэдыты скарыстоўваюцца па прамому прызначэньню і часткова ляжаць зусім нескарыстанымі.

Маюцца таксама выпадкі прадажы калгасамі хлеба і с.-гасп. прадуктаў на прыватным рынку і выпадкі адмаўленьня ад кантрактацыі.

Акрамя таго, Пленум адзначыў, што перавыбары кіруючых органаў па калгасах прайшлі пры недастатковай увазе гэтаму з боку некаторых РК і большасьці партячэек, і ў праўленьні некаторых калгасаў зноў прайшлі нежаданыя элемэнты.

Пленум АК даў рашучую дырэктыву аб прыняцьці мер да аб'яднаньня дробных калгасаў і пашырэньні работы па арганізацыі калгасаў, узяўшы цьвёрдую ўстаноўку на ахоп калгасамі цэлых вёсак

і с-с., зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўжо існуючыя калгасы.

Для лепшага абслугоўваньня калгасаў і вытворчых аб'яднаньняў, Пленум прапанаваў прыступіць да арганізацыі партячэек у калгасах, а тыя калгасы, у якіх няма камуністых, прымацаваць да бліжэйшых партячэек.

Прапанована на працягу летняга часу правесьці вывучэньне сацыяльнага складу калгасаў, ачысьціць іх ад кулацка-варожага элемэнту.

Пленум АК таксама ліча абавязковым уступленьне партыйцаў, маючых і працуючых на сельскай гаспадарцы, у існуючыя калгасы і ўноў арганізуемыя (меліся выпадкі нежаданьня партыйцаў уступіць у калгасы).

З іншых мерапрыемстваў Пленум АК вызначыў: зямляўпарадкаваць у 1929 годзе ўсе калгасы, якія з'арганізаваны да 1-га чэрвеня, забараніць скарыстаньне ў калгасах наёмнай рабочай сілы, за выключэньнем асобных выпадкаў; зьнішчыць прадажу калгасамі прадуктаў прыватніку; у 3-хмесячны тэрмін наладзіць унутраны распарадак і пастаноўку вучоту ў калгасах; палепшыць пастаноўку крэдытаваньня калгасаў; зьнішчыць індывыдуальную маёмасьць у калгасах; прыняць меры да разгортваньня культмасавай работы ў калгасах; распрацаваць вытворчы напрамак кожнаму калгасу паасобку; ажыцьцявіць рашэньні аб забесьпячэньні ўтрыманьня дзяцей, непрацаздольных і цяжарных жанчын; увесьці дыфэрэнцыраваную аплату, ствараючы ўмовы зацікаўленасьці да вытворчай працы; вывучыць пытаньне аб рацыянальным скарыстаньні трактараў і складаных сельска-гаспадарчых машын па акрузе.

Акрамя таго, даручана распрацаваць пытаньне аб ільготах калгасам па лініі спажывецкай каапэрацыі.

Пленум АК таксама адзначыў, што Калгассаюз недастаткова кіраваў калгасамі, і даручана ўзмацніць Калгассаюз лепшымі работнікамі. Адзначана пленумам, што існуючыя раённыя кусты недастаткова абслугоўваюць калгасы, і даручана вывучыць пытаньне аб палепшаньні форм абслугоўваньня іх.

Нарэшце, Пленум даручыў шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва паміж калгасамі акругі.

# У ПАРТЫЙНЫХ КАМІТЭТАХ.

## Віцебскі АК.

— Для азнаямленьня ўноў абранага кіруючага складу парт. ячэек з новымі задачамі і мэтадамі кіраўніцтва і работы, Акругком прызнаў неабходным правесьці ва ўсіх гарадзкіх раёнах вячэрнія, а ў вясковых раёнах—нядзельныя каротка-тэрміновыя курсы. АПА разам з Аргаддзелам і Жанаддзелам даручана ў 3-дзённы тэрмін распрацаваць і разаслаць адпаведныя праграмы курсаў (гарадзкі і вясковы варыянты). Работу курсаў намечана спыніць да 1-га жніўня, пасьля чаго будуць падведзены вынікі іх працы.

— У мэтах падрыхтоўкі і ўцягненьня жанчын у партыю. Акругком прапанаваў РК КПБ арганізаваць спэцыяльныя жаночыя гурткі з дэлегатак старага і новага складу і актыву работніц дзеля вывучэньня праграмы і статуту партыі.

— Акругком прызнаў мэтазгодным арганізацыю спэцыяльных гурткоў для абучэньня вылучэнак. АПА даручана забясьпечыць гэтыя гурткі кіраўнікамі, якіх на час вучобы аслабаніць ад іншых нагрузак.

## Полацкі АК.

— Полацкі АК з ліку прыбыўшых у акругу на летнюю практыку студэнтаў Камвузу, ўтварыў дзьве групы: накіраваў адну ў раён, а другую на гуту „Праца".

На групу, пасылаемую ў раён, акрамя спэцыяльнага заданьня, АК усклаў абавязак дапамогі мясцовым арганізацыям у правядзеньні работы па 100%-му вытворчаму каапэраваньню і калектывізацыі двох сельсаветаў.

## Магілеўскі АК.

— Для дапамогі Райкомам Акругком камандыраваў шэраг таварышоў—сяброў АК і Акруговага партактыву на раёны—тэрмінам на 2 тыдні.

— Магілеўскі АК выдзеліў спэцыяльную камісію па падрыхтоўцы вылучэнцаў у сав. апарат у замену тых, якія будуць вычышчаны пры чыстцы сав. апарату. Камісія намеціла арганізаваць межведамственныя вячэрнія 1½ месячныя курсы для падрыхтоўкі вылучэнцаў, з разьлікам на 40 асоб. На курсы па падрыхтоўцы вылучэнцаў, арганізаваныя ў Менску, намечана накіраваць 25 асоб выключна рабочых і работніц ад варштату з найбольш вытворчым стажам з якіх 60% партыйцаў.

**Менскі АК.**

— Вясковы аддзел Менскага АК КП(б)Б арганізуе экскурсію з 17-ці чалавек у паказальныя пункты па сельскай гаспадарцы ў СССР і РСФСР. У ліку ўдзельнікаў экскурсіі 10 калгасьнікаў.

## Праверка дзейнасьці асобных РК у галіне рэгуляваньня росту арганізацыі.

**Аршанскі АК.**

У чэрвені м-цы Аршанскі АК, у парадку праверкі дырэктыў партыі па ўцягненьню ў партыю с/г. рабочых і батракоў, заслухаў даклады Мсьціслаўскага РК, Шамаўскай ячэйкі і Талочынскага РК.

У пастанове адзначана нездавальняючая праца Мсьціслаўскага РК па ўцягненьню ў партыю с.-г. рабочых і батракоў.

Рост Талочынскай райпартарганізацыі за лік сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў праходзіў здавальняюча, але рост арганізацыі за лік лепшай часткі сялян быў недастатковы.

АК прызнаў ня мэтазгодным вызначэньне Мсьціслаўскім і Талочынскім РК кантрольных лічбаў па прыёму ў партыю рабочых і батракоў для паасобных ячэек і пастановы РК па гэтаму пытаньню адмяніў. Адначасова, АК даручыў аргаддзелу распрацаваць інструкцыйны ліст РК па пытаньню росту і рэгуляваньня прыёму ў партыю.

## Рост і рэгуляваньне сацыяльнага складу арганізацыі.

**Жлобінскі РК.**

Пленум Жлобінскага РК (Бабруйшчына) заслухаў даклад аб росьце партарганізацыі за 1929 г. Агульны рост арганізацыі адмечан здавальняючым, але недастатковы рост за кошт рабочых, асабліва ў першым квартале. З прынятых у партыю 18 сялян—6 калгасьнікаў, што зьяўляецца дадатным момантам у працы арганізацый.

Удзельная вага рабочых у арганізацыі не павялічылася, а засталася стабільнай (65,8%). Колькасьць сялян павялічылася на 1% за кошт зьніжэньня % служачых.

Удзельная вага жанчын у арганізацыі павялічылася толькі на 0,1%.

У складзе прынятых сялян, апроч калгасьнікаў, няма ніводнага батрака, што зьяўляецца адмоўным момантам.

РК прапанаваў усім ячэйкам КП(б)Б узмацніць выхаваўчую працу па ўцягненьню ў партыю сельска-гаспадарчых рабочых, батракоў, жанчын-работніц і батрачак. Праводзімую працу ўвязваць з рашэньнямі XVI партканфэрэнцыі.

Адносна прыёму батракоў Пленум даручыў ячэйкам прымаць заявы без рэкамэндацый з дасылкай у РК з мэтаю азнаямленьня і дачы рэкамэндацыі.

## Ход разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва.

**Рэчыцкі РК.**

Рэчыцкі РК КП(б)Б падвёў вынікі работы па разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва.

РК адзначыў павольнасьць і зацяжку ў заключэньні дагавораў паміж фабрыкамі, цэхамі і г. д.

Сацыялістычнае спаборніцтва ў вёсцы разгорнута надзвычайна слаба, калі ня лічыць асобных адзінак, галоўным чынам, калгасаў і дробных вытворчых аб'яднаньняў. Спаборніцтва паміж савецкімі ўстановамі, амаль адсутнічае і саюзы абмежаваліся агульнымі дырэктывамі.

РК даручыў адпаведным партыйным і праф. арганізацыям тэрмінова аформіць заключэньне дагавароў паміж асобнымі цэхамі, зьменамі і станкамі. Заключаныя дагаворы даводзіць да шырокага ведама рабочых і сачыць за іх выкананьнем.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна знайсьці свой адбітак у культмасавай працы клюбаў у выглядзе правядзеньня асобных вечароў, вывешываньня адпаведных дыяграм, пастановак, лёзунгаў і інш. Адпускную кампанію скарыстаць на экскурсіі ў другія прадпрыемствы для азнаямленьня з ходам спаборніцтва.

Па лініі камсамолу РК вызначыў меры барацьбы з настроямі „што камсамол сваё зрабіў, а цяпер справа за гаспадарнікам і праф. органамі".

Даручана адпаведным арганізацыям распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы.

---

Рэдактар: *Рэдкалегія.*

Друкарня „БДВ". Заказ № 3066. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 1981.